Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 38 (87) Аўторак, 15-га Вераеьня 1925 г, м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС



Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 20 гр.; у тэксьце — 15 гр.; на апош. стар. — 10 гр.

## Экспозытура Комінтэрна.

Неаднакроць на шпальтах нашае газэты зварачывалі мы ўвагу на тую пляновую і ўпартую працу, якую вядуць комуністы сярод беларускага грамадзянства. Падкрэсьлялі мы і тое, што ніці гэтае працы ідуць ад Маскоўскага Комінтэрна.

Яшчэ 7 месяцаў таму назад мы прадбачылі рэзультаты гэтай працы і загадзя прадвяшчалі тыя падзеі ў беларускім жыцьці ў Польшчы, якія цяпер ужо сталіся фактам.

Мы радзілі п. п. паслом ськівуць маску і паказаць свой праўдзівы твар, які для нас ужо і тагды ня быў загадкай.

Прароцтвы нашыя хутка збыліся. Утварылася гэтак званая „Сялянска-Работніцкая Грамада" таварыша Тарашкевіча, якая выкінула лёзунг: „Злучаная Беларусь пад уладай работнікаў і сялян", ці гаворачы на агульна зразумелай мове „пад уладай чэкістаў і чужынцаў-камісараў міжнароднай бальшавіцкай банды".

Ідэнтычнасьць ідеолёгіі і тактыкі „Сял.-Работн. Грамады" з комуністычнай фракцыяй хіба даволі ўжо выявілася, як у супольных выступленьнях іх у Сойме, так і на мітынгах (дзе варшавякі адначасова білі камуніста Прыступу і «грамадца» Тарашкевіча), а нават і ў праграме „Грамады", ў якой маюцца ўсе спэцыфічныя, набіўшыя ўжо аскому, бальшавіцкія лёзунгі, як „соцыяльная рэвалюцыя", «работніцка-сялянская ўлада», „барацьба з буржуазіяй" і г. д. Адна вялікая заслуга „Грамады" ў тым, што яна мае зусім выразны твар. Прынамсі беларускае грамадзянства ведае з кім яно мае дачыненьне. За «Грамадой» можа пайсьці толькі той, хто або спрые бальшавікам, або той хто, ці запамятаваў, ці ніколі на сваёй скуры не пераносіў іх зьдзекаў, той хто ніколі ня быў у лапах розных Чэка, Г. П. У. і іншых бальшавіцкіх засьценкаў.

Кожны-ж цьвярозы беларус, як інтэлігэнт, так і сялянін, добра ведае праўдзівую цану гэткім партыям як „Сялянска-Работніцкая Грамада" і ёй падобныя. Бо амаль-што кожны беларускі інтэлігэнт перанёс на самім сабе агідную залежнасьць ад бальшавіцкага камісара-чужынца. Асабліва добра гэта ведае беларускі інтэлігэнт-эмігрант, які змушаны быў кінуць сваю родную зямельку, каб ратавацца ад зьдзеку, голаду, а часта і ад самай сьмерці. Таксама добра ведае цану розным комуністычным арганізацыям і кожны цьвярозы беларускі селянін. Ен ненанавідзіць комуну, ненавідзіць комуністычную ўладу ненавідзіць комуністаў.

Беларускі селянін усюды аднолькавы, і „тут" у Заходняй Беларусі і „там" у Усходняй. Забойствамі селькораў, чэкістаў і іншых прадстаўнікоў комуністычнае улады селянін Усходняй Беларусі досьць выразна выказаў свае адносіны да гэтай улады.

Усе мы добра ведаем, што комуністы зьяўляюцца нашымі адкрытымі, яўнымі ворагамі. Але, апрача камуністаў — ворагаў адкрытых, ёсьць яшчэ комуністы патаемныя — ворагі скрытыя, гэтак кажучы „ваўкі ў авечай скуры". Усе яны называюць сябе прыяцелямі народа, барацьбітамі за яго правы, дзеячамі і г. п.

Мы ня раз ужо зьвярталі ўвагу беларускага грамадзянства на гэтых „дзеячоў". Яшчэ зусім нядаўна мы паказывалі на факты высылкі гэтымі „дзеячамі" за кардон непажаданых ім асобаў, якіх там садзілі ў падвалы, або зусім „выводзілі ў расход". Паказывалі мы і на факты калецтва гэтымі „дзеячамі" беларускай вучнёўскай моладзі. У свой час мясцовае беларускае грамадзянства рашуча заклейміла „працу" гэтых „прыяцеляў народу". Аднак-жа віленская беларуская экспозытура комінтэрна на гэта ўвагі не зьвярнула і па старому плянова і ўparта вядзе агідную сваю працу.

Перад намі новы факт:

Як вядома бальшавікі гатуюць новыя ахвяры да сьвяткаваньня ўгодкаў (мо' апошніх!) комуністычнага перавароту. Дзеля гэтага бальшавікі маняцца выдаць „амністыю", пры помачы якой яны, як піша вядомы расейскі пісьменьнік Арцыбашаў, «разьлічаюць налавіць шмат эмігранцкай воблы».

Зразумела, што для выкананьня гэтай лоўлі „воблы" комінтэрн даў адпаведныя загады ўсім сваім экспозытурам.

І вось, нашая Віленская Экспозытура Комінтэрна ўжо прыступіла да выкананьня гэтага загаду.

Так у № 7 газэты „Жыцьцё Беларуса" *) (орган Віл. Бел. Ком'а і Беларускага Пасольскага Клюба) зьмешчана перадавіца, пад прызваітым загалоўкам: „Крысталізацыя нацыі" (вось яна — скура авечча!), якая зрабіўшы вывад што адзіным мейсцам гдзе магчыма будаваньне беларускай нацыі зьяўляецца Радавая Беларусь, далей гаворыць літаральна наступнае:

«Але па-за межамі ўсіх частак Беларусі, на якія яна парэзана суседзямі, істнуе яшчэ даволі значная група нашае эмігранцкае інтэлігэнцыі" (бальшавікам спаць не дае гэтая эмігранцкая інтэлігэнцыя! Рэд.) „І ўсім ім мы ад шчырага сэрца радзім: калі хочаце адыграць нейкую ролю ў будаваньні беларускае нацыі, калі хочаце нешта сваё ўкласьці ў агульна-нацыянальную скарбніцу—*варочайцеся да дому!*».

Так, „варочайцеся да дому" ўсе вы: беларуская моладзь, якая вучыцца ў эўрапейскіх вышэйшых школах Чэхіі, Польшчы, Латвіі, Літвы і інш. дзяржаваў, варочайцеся, каб вас як не комуністаў, або асобаў „не пролетарскаго проісхожденія" ізноў выкінулі за борт, як гэта ўжо было зроблена з 1/3 студэнтаў Менскага Унівэрсытэта! Варочайцеся ўсе вы—грамадзкія і палітычныя дзеячы, афіцары і ўсе барацьбіты за паруганую Бацькаўшчыну! Варочайцеся і пакланіцеся чырвонаму хаму, бо там вас чакае „амністыя'', будаваньне нацыі і... куля ў падвалах Чэка!

Да гэтага прызывае вас Віленская Беларуская (?) Экспозытура Комінтэрна.

Але нам здаецца, што высілкі мясцовых комуністаў у гэтым кірунку прападуць дарэмна, бо беларускае грамадзянства нарэшце разгадала віленскага ,,сфінкса''.

І мы пэўны, што на чарговым крывавым сьвяткаваньні ўгодкаў Комінтэрна не будзе новых беларускіх ахвяраў!

---

*) Нумар гэты быў канфіскаваны праз 3 гадзіны пасьля выхада ўжо ў прадаўцоў і дзеля таго, што частка яго разыйшлася, лічым патрэбным даць адказ на прызыў „вяртацца да дому".

Рэд.

---

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць нявісьменнаму!*

## Палітычны агляд.

У Жэневе адчынілася чарговае паседжаньне Рады Лігі Народаў, зложанай з прадстаўнікоў дзевяцёх вялікшых дзяржаваў, пасьля якога адбудзецца агульны сход Лігі Народаў. Апрача розных дробных бягучых справаў, Ліга Народаў, будзе разглядаць Мосульскі конфлікт між Турцыяй і Англіяй. Гэты конфлікт стары і ўвесь час Ліга яго адкладвала, не рашаючыся зрабіць аканчальнай пастановы. Справа тут вось у чым: Англія, як ведама, заўсёды стараецца захапіць важнейшыя сусьветныя стратэгічныя пункты. Гэта ўваходзіць у праграму яе палітыкі, як сусьветнай марской і колёніяльнай дзяржавы. Гэткім чынам яна захапіла Гібралтар, Суэц, Сінгапур, а ў часе вайны Мэсопотамію, якая была на шляху ў Індыю. Перад вайной, як ведама, Нямеччына атрымала ад Турцыі концэсію на будаваньне багдадскай чугункі, якая павінна была закончыцца каля Пэрсідскае затокі. Дзеля гэтага, як толькі пачалася сусьветная вайна, Англія галоўную ўвагу зьвярнула на абарону Суэцкага канала і Мэсопотаміі. І, ня гледзячы на аддачу ў палон арміі Паўсэнда ў Кутэль-Амары, Англія не шкадавала ахвяраў, пакуль вайна не закончылася агульнай перамогай саюзьнікаў і ня вырашыла лёс Мэсопотаміі. З яе было зроблена асобнае, г. зв. Іракскае каралеўства, каралём якога Англія зрабіла паслухмянага ёй Фэссала. З ляжаўшага на поўнач ад Ірака Курдыстана было пастаноўлена зрабіць самастойную Курдыстанскую дзяржаву. Але Турцыя, як ведама, пасьля перамогі над Грэцыяй, збянтэжанай Англіяй і Францыяй, анулiравала Сэрвскі трактат, які прызнаваў незалежнасьць Курдыстана, ў склад якога ўваходзіў Мосульскі віляйэт і, паводле Лёзанскай конфэрэнцыі Турцыі з Грэцыяй і саюзьнікамі, Мосульскае пытаньне, як выклікаўшае надта паважную спрэчку, пастаноўлена выдзяліць і аддаць на разгляд Англіі і Турцыі. Дзеля таго, што ў Мосульскім віляйэце ёсьць вельмі багата крыніцаў газы, якая цяпер зьяўляецца вялізнай прыманкай для дзяржаваў з высока-разьвітай прамысловасьцю, дык Англія ні за якую цану ня хоча ўступіць Турцыі гэты край. Пакуль будзе вырашаны лёс гэтага краю, мандат над ім, тэрмінам на 4 гады, быў

пераданы Англіі. Але Турцыя таксама дабравольна ня хоча ўступіць гэты край, які прадстаўляе для яе вялізную цэннасьць з боку эканамічнага, палітычнага і стратэгічнага. Не пагадзіўшыся з сабой, Турцыя і Англія зьвярнуліся да Лігі Народаў. Ліга на леташнім восенным сходзе пастанавіла выслаць на месца спэцыяльную анкетную камісію. Анкетная камісія пасьля доўгай працы на месцы прыгатавала для Лігі абшырны даклад, у якім прапануе кампрамісны выхад — разьдзел Мосульскага віляйэта на 2 часткі: паўночную, якая будзе аддадзена Турцыі і паўднёвую, якую прапануе прылучыць да Ірака. Але гэткімі прапазыцыямі не здаволены ані Англія, дамагаўшаяся прылучэньня ўсяго Мосульскага віляйэта да Ірака, ў якім фактычным гаспадаром зьяўляецца Англія, ані Турцыя не дапускаўшая разьдзелу. Ведама, пры гэткай пазіцыі абедзьвюх старон Ліга Народаў і цяпер не рашыцца зрабіць аканчальную пастанову адносна Мосульскага конфлікта. Англія, каб націснуць на турэцкую дэлегацыю ў Жэневе, выслала на турэцкія воды свой ваенны Сярэдземны флёт. Але гэтая дэмонстрацыя Турцыю не напалохае і ня прымусіць яе адмовіцца ад сваіх справядлівых дамаганьняў. А Англія апірае свае дамаганьні Мосуля толькі на тым, што ён, як будзе пераданы ёй, як болей разьвітай з прамысловага боку дзяржаве, прынясе большую карысьць, чымся застаючыся пад уладай Турцыі. У гэтым паглядзе вялікіх дзяржаваў на некаторыя пытаньні ёсьць паважная небясьпека для незалежнасьці слабых і малых дзяржаваў.

Але апрача Мосульскага пытаньня цяперашняя сэсыя Лігі Народаў цікаўна яшчэ дзеля таго, што за яе кулісамі вядуцца перагаворы між ангельскім, француцкім і бэльгійскім міністрамі загранічных справаў па пытаньню аб пакце бясьпекі, якія ўжо блізяцца да аканчальнай развязкі. У Жэневу апрача француского міністра загранічных справаў, Брыана, прыехаў таксама й прэмьер Пэнлевэ. Да гэтага часу ўжо закончылася ў Лёндане конфэрэнцыя экспэртаўюрыстаў Англіі, Францыі, Нямеччыны і Бэльгіі ў прысутнасьці італьянскага, але без рашаючага голаса. Конфэрэнцыя скончылася ўдачна. На ёй праведзены той аснаўны прынцып пакта бясьпекі, паводле якога ніводная дзяржава ня можа выступіць самастойна з рэпрэсыямі, калі-б здарыўся аружны конфлікт на ўсходніх межах Нямеччыны без папярэдняе згоды Лігі Народаў. Гэткім чынам аканчальна перамог ангельска-нямецкі пагляд. Пасьля конфэрэнцыі экспэртаў будуць высланы Нямеччыне запросіны на конфэрэнцыю міністраў загранічных справаў, якая адбудзецца ў пачатку кастрычніка. Цяпер ужо напэўна пакт будзе падпісаны Нямеччынай, Францыяй, Англіяй і Бэльгіяй, які будзе пачаткам новай эры ў заходняй Эўропе.

Адным з рэзультатаў пакта бясьпекі будзе зьніштажэньне тых розьніц, якія былі між пераможцамі і пераможанымі ад пачатку вайны. Нямеччына ізноў займе ранейшае палажэньне сярод вялікіх дзяржаваў. Далей, яна ўвойдзе ў Лігу Народаў і ёй будзе дана месца ў Радзе Лігі Народаў побач з іншымі вялікімі дзяржавамі. Дзякуючы гэтаму Нямеччына будзе мець магчымасьць рабіць уплыў на разьвіцьцё палітычных падзеяў у Эўропе. Гэткім чынам у Эўропе аслабне ўплыў Францыі, якая дагэтуль была галоўным дырыжорам у эўрапэйскім канцэрце. Гэткі зварот ставіць у надта труднае палажэньне саюзьніц Францыі на ўсходзе — Польшчу, Чэхаславакію і Румынію. Уся ранейшая палітыка апошніх, як ведама, імкнулася да ўзаемнага супрацоўніцтва з Францыяй. Безаружнасьць Нямеччыны і гатоўнасьць Францыі кожны мамэнт даць ваенную падмогу, калі-б немцы заатакавалі сваіх усходніх суседзяў зусім забясьпечвалі Польшчу і Чэха-Славакію. Але пакт бясьпекі, перш-на-перш, аслабляе ваенны кантроль над Нямеччынай і дае ёй магчымасьць азброіцца, а па-другое пазбаўляе Францыю права самастойна выступаць проці Нямеччыны, калі-б яна напала на ўсходніх саюзьніц Францыі. А калі-б Францыя ўсё-ж выступіла, дык Англія не прызнае сябе забавязанай даваць падмогу Францыі. Ведама, Нямеччына імкнецца да таго, каб зьвязаць рукі Францыі, калі-б здарыўся аружны конфлікт на яе ўсходняй граніцы — і да гэтай мэты яна відаць хутка дойдзе.

*N.*

# Палітычная хроніка.

### У Польшчы.

Сэнацкая камісія, якая цяпер разглядае проэкт аграрнай рэформы, зрабіла ў прынятым Соймам проэкце вельмі важныя папраўкі. Камісія значна павялічыла абшар зямельных вучасткаў, якія не падлягаюць парцэляцыі. Гэтак памер гэтых вучасткаў для прамысловых районаў павялічаны з 60 на 180 гэкт., для земляробскіх районаў з 180 да 300 гэкт. і для крэсаў да 400 гэкт. Гэткае павялічэньне абшару маёнткаў не падлягаючых парцэляцыі вызвала вострую опозыцыю «Пяста» і іншых левых партыяў. У рэзультаце сэнатар Бузэк адмовіўся рабіць даклад па законапроэкту і на яго мейсца быў вызначаны новы дакладчык сэнатар Беляўскі (Z. L. N.).

**У Лодзі** ў акружным судзе разглядалася справа комуністычнага пасла Станіслава Ланцуцкага, якога абвінавацілі па 129 арт. К. К. Суд прыгаварыў Ланцуцкага к 3 гадам цяжкое турмы з пазбаўленьнем праваў.

З Варшавы паведамляюць, што забастоўка мэталістаў скончылася. На некаторых фабрыках звольнена каля 40 працэнтаў работнікаў. Работнікам фабрык Бэрмана „Рocisk" і інш. абʼяўлена аб звальненьні іх. Профэсыянальны саюз мэталістаў зьвярнуўся да Ураду з просьбай аб інтэрвэнцыі.

Перарваныя польска-літоўскія перагаворы у Копэнгагене ў хуткім часе маюць распачацца ізноў.

### За граніцай.

**У Мароко** французы і гішпанцы наступаюць па ўсяму фронту. Кабілы прабавалі аказаць спраціўленьне французам, але вагнём артылерыі прымушаны былі адыйсьці на поўнач. Як паведамляюць апошнія тэлеграмы кабілы адыходзяць па ўсёй лініі. Гішпанцы паволі наступлеяьне на поўдзень ад Алгуцэмскай бухты, а французы пасоўваюцца на поўнач ад Кіфаны. Гэткім чынам французы і гішпанцы маняцца абыйсьці рыфэнаў з флангаў.

**У Жэневе** адбываецца шостая агульная сэсія Лігі Народаў. Пытаньне аб Мосуле засталося пакуль што нявырашаным. Турцыя дамагаецца каб у Мосуле быў зроблены плебісцыт.

„Matin" паведамляе, што перагаворы аб дагаворы бясьпекі распачнуцца ў пачатку кастрычніка. Лушэр і Брыан згаджаюцца падпісаць дагавор бясьпекі толькі пад тым варункам, што раней будзе падпісаны асобны арбітражны дагавор паміж Нямеччынай і яе ўсходнімі суседзямі Польшчай і Чэхаславакіяй.

З **Софіі** паведамляюць, што ўрад Цанкова атрымаў вотум даверыя і падзяку за энэргічную абарону дзяржавы ад комуністычных выступленьняў.

**У Турцыі** Рада Міністраў пастанавіла зачыніць усе манастыры і скасаваць духоўныя тытулы. Апрача гэтага Урад выдаў дэкрэт якім прадпісывае ўсім урадоўцам насіць толькі эўрапейскую адзежу.

**У Аўстраліі** парлямэнт прыняў закон аб поўным скасаваньні сьмертнай казьні.

Социялістычныя дэлегаты Лігі Народаў арганізавалі сваю ўласную фракцыю для разгляду гаспадарчых і палітычных справаў.

На конфэрэнцыі балтыцкіх дзяржаваў міністры загранічных справаў Польшчы, Фінляндыі, Эстоніі і Латвіі выказаліся за падпісаньне жэнеўскага пратакола аб разбраеньні.

З **Жэневы** надыйшлі весткі аб тым, што ў палове кастрычніка там мае адбыцца міжнародны зьезд нацыянальных меншасьцяў усіх эўрапэйскіх дзяржаваў.

Кітайскі Урад выслаў Англіі, Францыі, Бэльгіі, Гішпаніі, Японіі, Голяндыі і Амэрыцы запрашэньне на тарыфную конфэрэнцыю, якая мае адбыцца 26 кастрычніка ў Пэкіне.

# У С.С.Р.Р.

### Зьніштажаюць комуністаў.

Выпадкі забойства комуністаў у Саўдэпіі з кожным днём усё больш павялічываюцца. За апошні тыдзень комуністычная партыя страціла шмат каго з сваіх найвыдатнейшых сябраў.

Гэтак „Праўда" паведамляе аб нападзе на сябра саюзнага выканаўчага камітэту (вышэйшы орган у Саўдэпіі) Файзула Хаджаева, які быў цяжка раняны ў часе павароту з Абхазіі да С.С.Р.Р. Сябра камісіі Локшаль - забіты, а старшыня Рады Абхазіі Бахтадзе цяжка раняны.

Менская „Звезда" паведамляе аб тым, што ў Полацку нявыкрытыя

---

**ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.**

# ДРЫГВА

### драматычны эскіз ў 6-ёх абразох.

(*Глядзі „Грам. Гол." № 86*).

**Усе** (*падхапліваюць песьню і пяюць хорам*).

Годзі, наш брацейка,
Дык ты ня дзеўчына!
Ці, пройдзе туга,
Ці, пройдзе туга!

У другім пакоі чуваць кароткі крык і стук нечага ўпаўшага на падлогу.

**Усе.** Што гэта?

**Міхалка** (*сьцямiўшы, што гэта значыць. Ускочыўшы з месца, ня ведае, што рабіць*).

**Галубоўскі** (*кінуўшы гармонік, бяжыць у другі пакой*).

**Усе** (*бышчам адзеравянеўшыя глядзяць яму ўсьлед*.

**Галубоўскі** (*хутка варочаецца*). Маня атруцілася!...

ЗАСЛОНА.

VI.

Гэты самы рэстаран, але ўжо мае іншы выгляд. На сьценах новыя абоі, сталы прыкрыты белымі настольнікамі, буфэт багата застаўлены закускамі.

У другім пакоі стаіць пяніно, на якім грае музыка, а другі — на іскрыпцы.

У глыбі сядзіць іскорчыўшыся і абняўшы рукамі свой гармонік **Галубоўскі.** Твар бледны, грудзі ўпалыя, вочы сьвецяцца нездаровым бліскам. Ен час-ад-часу кашляе.

Пры адным са столікаў сядзяць **2 госьці** і п'юць піва. На іншым століку стаяць чаркі з недапітай гарэлкай і закускі.

**Гаспадыня** сядзіць за буфэтам.

**Гаспадыня.** Галубоўскі! Што-ж разсеўся, як які пан! Мог-бы памагчы ў кухні... Няхай ідзе ў складзік і прынясе дроў...

**Галубоўскі.** Я зараз, панічка... (*выходзіць*).

**Гаспадыня.** Эх, чалавек! Ні чорту качарга, ні Богу сьвечка, ды й годзі...

**I госьць.** А што-ж дзеецца з вашай Манькай? Нешта даўно ўжо яе не відаць...

**Гаспадыня** (*махнуўшы рукой*). Ат, ідыётка! Задурыла сабе голаву нейкім студэнтам...

**I госьць.** Ну?

**Гаспадыня.** І атруцілася. Нарабіла толькі мне клапоту. Узялі яе ў бальніцу і там мабыць памёрла.

**I госьць.** Шкада. Прыгожая была дзяўчына...

**Гаспадыня.** Сама вінавата. Дурная была — ды й годзі!

**I госьць.** Бачу, музыку вы ў сябе завялі... Галубоўскі, значыцца, ужо ня грае?

**Гаспадыня.** Але, бо-ж самі падумайце, паночкі, якая гэта была музыка на гэтай гармоніцы! Ды яшчэ як замычыць казой, дык хоць ты вушы затыкай! У мяне-ж рэстаран, дзякаваць Богу, а не шынок або піўная. Ніякі ня прыйдзе прызваіты госьць, калі будзе тут раўсьці гэты мычыяла са сваім гармонікам... А трымаю яго з літасьці... Вось часам крыху каля кухні паможа: дроў насячэ, вады прынясе...

**I госьць** (*да другога*). Бачыш, колькі тут зьменаў праз той час, як нас ня было: грае музыка, рэстаран абноўлены, Манька атруцілася...

асобы сярод белага дня схапілі на вуліцы сябра іспалкома комуністычнай партыі Беларусі — Гаўлава і вывезьлі яго няма ведама куды. У вёсцы Далеба сяляне забілі „селькора" Аляксандра Ярмаловіча і цела яго кінулі ў раку. Забілі яго за тое, што ён казаў, быццам няма Бога.

У вёску Канаркавічы Мазырскага павету прыехаў сьледавацель Г.П.У. *Саламонаў*, які меўся зрабіць сьледзтва ў справе неплацежа падаткаў і хаваньня дэзэртыраў. У часе дапросу Саламонаў пачаў зьдзекавацца над сялянамі. Памалу перад хатай дзе быў сьледавацель сабралася ўся вёска. Селяне накінуліся на Саламонава, вывалаклі яго на вуліцу і там разарвалі на кавалкі.

### Забілі ката.

4 верасьня ў вёску Патапаўку Гомельскага пав. прыехаў новы прадсядацель валаснога іспалкома Аляксандар Ціханаў, які паходзіў з гэтай самай вёскі, але ў апошні час жыў у Маскве, дзе працаваў за ката у Бутырскай турме. Сяляне, як даведаліся аб тым, што Ціханаў быў у Маскве катам, схапілі яго і зьлінчавалі, а труп ягоны спалілі ў лесе.

Апошні час у бальшавікоў вельмі модны лёзунг „тварам да вёскі", але сяляне зразумелі гэты лёзунг па свайму і б'юць камуністаў па гэтай самай „твары", бо вельмі ўжо яна сялянам абрыдла.

### Добра пажывіліся.

Ня гледзячы на страшэнны тэррор бальшавікі ніяк, аднак, ня могуць спыніць паўстанчага руху.

Менская „Звезда" піша аб тым, што ўначы на 1 верасьня каля станцыі Улянаўкі, вялікая банда паўстанцаў напала на паштовы цягнік. Паўстанцы абрабавалі ўвесь цягнік і, між іншым, забралі некалькі пудоў серабра, якое бальшавікі вязьлі на манэтны двор.

### Б'юць „караценяў".

У Вераб'ёўскіх лясох крыецца шмат паўстанцаў. Бальшавікі пастанавілі „зьліквідаваць" іх і ўначы з 6 на 7 верасьня выслалі ў гэтыя лясы вялікі атрад Г.П.У. Калі атрад у поўнай баявой гатоўнасьці праходзіў лесам, дык на яго з тылу напалі партызаны, якія былі паведамлены мясцовымі сялянамі і зрабілі засаду. Чэкісты, не чакаўшыя гэтага нападу кінуліся на ўцёк і пры гэтым заставілі на мейсцы шмат забітых і раняных.

### „Набояў не шкадуюць".

Як вучыць нас гісторыя, заўсёды бывае так, што калі ўлада якой-небудзь дзяржавы чуецца ня пэўнай, дык стараецца тэррорам ратаваць сваё істнаваньне. Гэтак і бальшавікі, чуючы што надыходзіць іх апошняя гадзіна страшэнным тэррорам стараюцца задавіць народнае паўстаньне. Атрады Г.П.У. у павялічаным складзе „працуюць" цяпер па ўсей Беларусі. Западозранных у прыхільнасьці да паўстанцаў разстрэліваюць без усялякага суда. З Полацку паведамляюць, што „карацельныя" атрады па падазрэньню ў прыхільнасьці да паўстанцаў разстралялі шмат сялян з ваколічных вёсак. У вёсцы Зеглаве яны забілі 14 сялян, а 7 памёрлі ад пабояў; у вёсцы Гарбачы разстрэляны 18 сялян, а 5 адаслана ў полацкае Г. П. У.; у вёсцы Асіньнікі забіта 13 чалавек; у вёсцы Казяны — 2, а 7 адасланы у Г. П. У., у гэтай-жа вёсцы бальшавікі „рэквізавалі" 17 галоў скаціны; у вёсцы Ліцьвінава „карацелі" спалілі 32 гаспадаркі і забілі 4 сялян, у вёсцы Краснае разстрэляна імі 6 чалавек.

Гэтак-жа сама „працуюць" бальшавікі і ў Віцебскай губ.; там таксама яны разстрэлялі дзесяткі сялян, яшчэ больш арыштавалі, а гаспадаркі іх папалі.

Вось дык „сялянская" улада!

### „Комсамольцы" за катаў.

1 верасьня ў Гомэлі 18 чырвонаармейцаў была разстрэляна за дэзэртырства. У гэты-ж дзень былі разстрэляны яшчэ 4 селяніны, якіх абвінавацілі ў тым, што яны далі прытулак дэзэртырам. Усіх засуджаных разстрэлівалі маладыя хлапцы — „комсамольцы".

Характэрны прыклад „пролетарскага" выхаваньня моладзі!

### „Абразцовая" гаспадарка.

Савецкія газэты пішуць аб тым, што ў Петраградзе які на *ком*-мове завецца Ленінградам, тэхнічная камісія пастанавіла раскідаць 184 дамы, якіх ужо ня можна направіць.

Вось дык гаспадарка!

На захадзе „буржуазныя" ўрады займаюцца будаваньнем новых дамоў, а „пралетарская" ўлада робіць якраз наадварот — зьніштажае будынкі. А мо' і запраўды дамы зьяўляюцца „буржуазным прэдразсудкам" і ў пралетарскім „раі" можна жыць проста на вуліцы?!

---

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Расійская колёнія ў Югаславіі.

Урад Югаславіі апрацаваў проэкт расійскае колёніі, п. н. „Новая Россія". Проэкт мае на ўвазе сабраць усіх расійцаў, якія перабываюць у Югаславіі, ў адно месца, а іменна: ў Далмацыю і абмежаваць у пэўнай меры вольнасьць іх рухаў.

### Немцы множацца.

Статыстычныя ведамасьці сьцьвярджаюць, што жыхарства ў Нямеччыне ўсьцяж узрастае. Калі ў апошнія тры месяцы 1923 г. лік нараджэньняў раўняўся 56,184, у тымжа часе 1924 г. падняўся да 67,026. Ад сьпісу 1919 г. жыхарства Нямеччыны павялічылася на 3,300,000, або на 5,6 прац.

### Найвялікшы дрэдноут.

У Нью-Кэстле спушчаны на ваду найвялікшы ў сьвеце дрэдноут. Гэта першы бранянасец, збудаваны ў Англіі пасьля вайны. Кошт будовы бранянасца дасягае 8 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў.

### Сколькі павінны Амэрыцы.

Афіцыяльныя ведамасьці паказываюць, што даўгі усіх дзяржаваў разам Злуч. Штатам раўняюцца 1,208,075 мільёнам даляраў. З гэтае сумы аканчальна урэгулявана толькі 650 мільёнаў.

---

# Жыцьцё провінцыі.

### Дрэнныя парадкі.

(*м. Смаргоні, Ашмянскага пав.*).

Неаднакроць прыходзілася чытаць мне у газэце жальбы падпісчыкаў на тое, што яны не атрымоўваюць выпісыванае газэты.

Вось-жа мушу зазначыць, што і мы падпісчыкі „Грамадзкага Голасу" праз нядбальства паштовых урадоўцаў дазнаём крыўды. Хаця і выпісываем мы газэту, але рэдка прыходзіцца яе атрымліваць. А дзеецца гэта з той прычыны што нашым паштовым урадоўцам уздумалася адсылаць усю корэспондэнцыю ў гміну. Гэта, здаецца, вялікай шкоды ня прынясло-бы, бо і гміна не абы-што, а ўрадовая ўстанова. Але справа выглядаэ горш, чым гэта здаецца на першы пагляд. Дрэнна тое, што ўся корэспондэнцыя кідаецца ў гміне проста на вакно і ніякага дагляду там за ёй няма. Хто раней прыдзе, той можа забраць, што яму падабаецца, Тыя-ж што жывуць далей застаюцца дзякуючы гэтаму без газэт. Нам падпісчыкам, каторыя плацяць грошы, а нічога за іх не атрымоўваюць, — крыўда вельмі вялікая.

Таксама дрэнна стаіць справа і з пісьмамі. Знаходзяцца цікавыя людзі, якім хочацца ведаць, што пішуць да іх знаёмых. Няма на гэта лепшай рады, як пайсьці ў гміну і акуратна (і пры гэтым бяскарна) прачытаць усе пісьмы. Дзеля гэтага часта здараецца атрымоўваць пісьмы распячатанымі, ды й з вялікім спазьненьнем. Гэта часам прыносіць і шкоду, бо бывае высылаецца ліст у якой-небудзь важнай пільнай справе, а прыходзіць ён ужо па часе, ды яшчэ пабываўшы ў чыей-небудзь „рэдакцыі".

Ня ведаю чыя тут віна, але думаю, што можна было-б зрабіць так, каб корэспондэнцыя трапіла на азначаны адрас. Падпісчык **Д—я.**

**Ад рэдакцыі:** Намі часта атрымоўваюцца падобныя жальбы ад падпісчыкаў. Бязумоўна рэдакцыя зробіць адпаведныя крокі, каб гэтага больш ня было.

# Воўчы закон.

(*З байкі Крылова „Воўк і ягнятка"*).

У сільнага слабы заўсёды вінаваты.
Ягнятка неяк у летнюю жару
Адбіўшыся ад хаты,
Пабегла да ракі вады напіцца.
І трэба-ж была так злажыцца,
Што акурат у тую-жа пару
Пры рэчцы той галодны воўк блудаўся.
Угледзіўшы здабычу воўк аж аблізаўся.
І вось з замерам паабедаць
Сьпяшыць к ягняці ён. Аднак,
Як ні хацелася яму скарэй ягняцінкі адведаць,
Воўк (ён быў практычны стары злодзей,
І не адну ўжо прыкрасьць меў,
Калі каго ўкраўшы проста зьеў) —
Хацеў абставіць справу так,
Каб быць зусім з законам у згодзе,
Абвінавачаньням ня даць падставу,
Ну, словам, усё зрабіць „па праву".
І вось—пачаў к ягняці воўк чапіцца,
Што не дае яно яму напіцца.
„Як сьмееш лезьць сюды!" крычыць—
„Сваім паганым рылам
Тут, дзе буду піць
Мяшаць ваду з пяском і ілам?
За сьмеласьць гэткую сарву
Тваю дурную галаву!"
„Калі яснавяльможны воўк прыглядзіцца бліжэй" —
Ягнятка кажа, дык можа аказацца,
Што тут зусім няма чаго злавацца,
Бо я шагоў на сто ніжэй
Ад Вашай міласьці па рэчцы пью
І замуціць вады вам не магу!"
„А! Значыцца я лгу?
Нягодны! Хто чуў такую сьмеласьць у сьвеце?
Ды, помніцца, і ў прошлым леце
Таксама мне ты насаліў!
Я гэтага, дружочак, не забыўся!"
„Перапрашаю: я толькі сёлета радзіўся
Тады не я напэўна быў!"
Ягнятка кажа. „Дык гэта быў твой брат".
„Не маю я братоў"... „Дык кум, ці сват,
Словам, нехта з твайго роду!
Вы ўсе: сабакі, оўцы, пастухі —
Заўсёды сочыце мае грахі
Воўчаму жадаючы пагібелі народу!
Хто іменна тут вінаваты
Зусім цяпер я не пытаюся,
З табой шчанё смаркаты
За ўсіх тут расквітаюся!"
„Усё-ж-ткі чым вінаваты я?"
„Маўчы! Абрыдла мне зусім уся гутарка твая!
Даволі!
Няма чаго з табой вазіцца болей,
Пытаньнямі сваімі—зусім мне надаеў!
Адказваць табе — за многа чэсьці.
А хочаш знаць за што? Дык знай: даўно я еў,
І зьем цябе, бо хочу есьці!"

**Б. Друцкі.**

---

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

---

**II госьць.** А Лякдугна, я чуў павесіўся.

**I госьць.** Няўжо-ж? Змарнаваўся хлапец— шкода!

**Гаспадыня.** У апошні час піў бяз меры.

**I госьць.** Дрыгва ўцягнула яго.

**Галубоўскі** (*ўваходзіць, сядае ў кутку, кашляе*).

**Гаспадыня.** Дроў прынёс?

**Галубоўскі.** Прынёс, панічка!

**Гаспадыня** (*выходзіць*).

**II госьць.** А раней мне больш тут падабалася. Гэты бруд, смурод, гніль, гэты Галубоўскі з гармонікам — гэта мела свой стыль. Цяпер стыль утрачаны.

**I госьць.** Надта ўжо было брудна, цяпер ляпей.

**II госьць.** Э, не!... Хадзі, Галубоўскі! Запяі нам, браток, як калісь: «І пянёндзуф ня хцяла, ня хцяла»...

**Галубоўскі.** Нельга... Гаспадыня не пазваляе.

**II госьць.** Глупства! Пяі! Хадзі сюды, дам чарку гарэлкі.

**Галубоўскі** (*падыходзіць*). Вось калі ласка панская, дык крыху перцу, зябіць крыху, можа паляпшэе.

**I госьць.** Маеш перцу. (*Дае яму перац*).

**Галубоўскі** (*сыпле ў чарку з гарэлкай, мешае вілкай і выпівае*). На здароўе панам!

**Госьці.** Будзь здароў!

**II госьць.** А цяпер пяі!

**Галубоўскі.** Калі баюся... Ну, зараз я вазьму гармонік... (*бярэ гармонік, сядае побач гасьцей і пачынае пяяць ахрыплым траскучым голасам*): І пянёндзуф ня хцяла...

**Госьці** (*падпяваюць*).

У гэты час уваходзіць прыкрыўшыся хусткай **Манька.** Яе ня бачаць. Яна з цікавасьцю аглядае знаёмае памяшчэньне і ідзе ў другі пакой і ня сьмела затрымоўваецца на парозе. Яе пабачыў **кэльнэр** і з дзівам глядзіць на яе.

**Гаспадыня** (*уваходзіць*). Галубоўскі, а Галубоўскі! А гэта-ж што! Ізноў піянічуга пачаў раўсьці. Колькі разоў я табе казала, каб гэтага больш ня было! Хочаш мусі, каб я цябе вон выгнала!

**Галубоўскі.** Панічка, калі госьці...

**Гаспадыня.** Што—госьці? Мой хлеб ясі— мяне слухайся, а не гасьцей. А вам, паночкі, ня сорам? Замест ціха, спакойна пасядзець, паслухаць харошай музыкі, яны пачалі тут раўсьці разам з Галубоўскім. Не патрэбны мне гэткія госьці, што вып'юць на капейку, а шуму наробяць за рубель.

**II госьць.** Калі ласка, пані, можа можна цішэй крыху.

**Гаспадыня.** Што цішэй? чаму цішэй? Я тут гаспадыня і не пазволю тут рабіць бравэры. Калі не падабаецца, дык можаце сабе ісьці, плакаць ня буду.

**II госьць** (*устае*). Пойдзем адсюль.

**I госьць.** А я табе казаў: на якое ліха сюды ісьці? Захацелася табе старых настрояў — вось і маеш настрой. (*Звоняць шклянкай, кідаюць на стол грошы і выходзяць*).

(*Працяг будзе*).

## Палепшаньне павятовае адміністрацыі на Крэсах.

Як мы ўжо паведамлялі, міністар унутраных справаў з мэтай бліжэйшага контакту адміністрацыйных уладаў з жыхарствам на ўсходніх крэсах апрацаваў проэкт арганізацыі аб'яздных урадоўцаў пры староствах.

Згодна з гэтым проэктам ў адміністрацыйны апарат уводзяцца гэткія палепшаньні.

1) адміністрацыйная ўлада будзе клікаць інтэрэсантаў да асабістага стаўленьня ў урадзе толькі ў выпадках канешнае патрэбы;

2) у выпадку стаўленьня ў урадзе старон, усё роўна ці былі яны выкліканы павесткай, ці прыехалі з уласнае ініцыятывы, адміністрацыйная ўлада мусіць залатвіць справы інтэрэсантаў без непатрэбнае валакіты і працэдуры ў той самы дзень, асабліва калі інтэрэсанты здалёка.

3) Няпісьменным інтэрэсантам будзе давацца помач пры складаньні заяваў і просьбаў.

4) Будуць выкарыстаны самаўрадовыя органы з мэтай абвяшчэньня жыхарству новых загадаў і распараджэньняў агульна абавязываючых.

5) Часьць адміністрацыйных справаў I інстанцыі, будзе разглядацца на мейсцы ў гмінах ў часе аб'езду паветаў.

Гэтыя пастановы, а таксама шмат іншых удагадняючых патрэбы вясковага жыхарства зацьверджаны сэкцыяй палітычнага камітэту Рады Міністраў і ў зьвязку з гэтым пастаноўлена:

1) Да каждага староства дадаць належна выкваліфікованага рэфэрэндарскага ўрадоўца I катэгорыі, які-б спаўняў функцыі аб'езднага ўрадоўца.

2) Заданьнем аб'езднага ўрадоўца ёсьць утрыманьне сталага беспасрэднага контакту паміж адміністрацыйнай уладай I інстанцыі і жыхарствам павету, а таксама прыгатаваньне або залатвеньне конкрэтных ўрадовых справаў на мейсцы.

3) Аб'езды ўрадовец выступае на падставе агульных правілаў аб арганізацыі адміністрацыйных ўладаў I інстанцыі ад імя старосты і мае права карыстацца ўрадовай пячаткай.

Да компэтэнцыі аб'ездных ўрадоўцаў залічаны гэткія справы: прыймо пісаных і вусных просьбаў ад жыхарства, правядзеньне на мейсцы съледзтва, выдаваньне пастановаў у справах, якія адлажыць нельга, або не вымагаючых асабістае пастановы старосты, правядзеньне справы і выдаваньне адміністрацыйных пастановаў у граніцах вызначанага старостам maximum кары, выдаваньне пашпартоў і ўрадовых пасьведчаньняў, кантроль гміннае гаспадаркі, праверка пастарункаў паліцыі і іншыя справы.

У зьвязку з гэтымі пастановамі п. міністра ўнутраных справаў віленскі Ваявода мае выдаць у найбліжэйшым часе старостам віленскага ваяводзтва загады рэалізуючыя гэтыя распараджэньні.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Экзамен сьпеласьці ў беларускай мове.** На моцы пастановы Міністэрства Асьветы ў месяцы кастрычніку першы раз адбудзецца экзамен сьпеласьці ў беларускай мове.

Экзамен будзе адбывацца паводле праграмы, абавязываючай у ўрадовых школах адпаведнага тыпу, прычым экзамен польскае мовы, гісторыі Польшчы, гісторыі агульнай, навукі аб сучаснай Польшчы, географіі Польшчы і географіі агульнай, будуць адбывацца папольску, экзамены-ж з усіх іншых прадметаў — пабеларуску. Апроч прадметаў прадбачаных у праграме ўрадовых школаў адбудзецца пісьменны і вусны экзамен з мовы і літэратуры беларускай.

Асобы жадаючыя здаваць экзамен павінны да 1 кастрычніка г. г. злажыць да канцэлярыі Віленскага Кураторыума (вул. Воляна 10) адпаведную заяву, ўласнаручна напісаную аўтабіографію (życiorys), мэтрыку нараджэньня, школьныя пасьведчаньні, 2 фатаграфіі і квіт Скарбовае Касы ў Вільні на 40 зл. як аплату за экзамен сьпеласьці.

Па чуткам старшынёю экзаменацыйнае камісіі мае быць назначаны прафэсар Касьцялкоўскі.

= **Навучаньне Закону Божага ў роднай мове.** Апублікавана інструкцыя, якая гаворыць аб тым, што Закон Божы ў мяшаных пачатковых школах павінен выкладацца ў роднай мове дзяцей.

= **Канфіскацыя газэты.** Па загаду Камісара Ураду ў Вільні 8 верасьня сканфіскавана 2.200 экзэмпляраў апошняга № 7 газэты „Жыцьцё Беларуса". Рэдактара газэты цягнуць да судовае адказнасьці з арт. 129 К.К.

= **Рэестрацыя прызыўных 1905, 6 і 7 г. г.** Віленскі Магістрат падае да агульнага ведама, што ўсе мужчыны радзіўшыяся ў 1905, 1906 і 1907 г. г. і яшчэ да гэтага часу не зарэестраваўшыяся, павінны да 15 г. кастрычніка зьявіцца на рэестрацыю ў Магістрат з мэтрыкамі і іншымі дакумантамі.

Не зьявіўшыяся на рэестрацыю да гэтага тэрміну будуць карацца штрафам да 500 зл., ці арыштам да 6 тыдняў.

= **Прыняцьце на курсы кандыдатаў Рады.** Згодна з распараджэньнем Міністра Асьветы Віленскі Кураторыум прыняў на вучыцельскія курсы 13 дадатковых кандыдатаў Рады. Пасьля месячнага перарыву, заняткі на курсах пачаліся ізноў.

= **Беларуская чытальня.** Пры Часовай Бел. Радзе адкрыта чытальня, (пакой 26), пры якой у хуткім часе будзе арганізавана бібліотэка. У чытальні маюцца ўсе беларускія газэты, а таксама і іншыя, як краёвыя, так і заграні́чныя. Адчынена чытальня штодня ад 11 да 2 гадз. Уваход бясплатны.

= **Фальшывыя грошы.** Польскі Банк паведамляе, што зьявіліся фальшывыя, крэдыткі па 20 злотых з датай 15 ліпеня 1924 г. Фальшывыя крэдыткі зроблены на белай паперы ў той час як запраўдныя таго-ж самага выпуску — на крэмавай.

= **Оперны тэатр.** Ч. Янкоўскі атрымаў канцэсію на арганізацыю ў Вільні опернага тэатра які будзе мясьціцца ў „Лютні". Апрача оперы, будуць ставіцца оперэткі і сымфанічныя канцэрты.

= **Да ведама выяжджаючых заграніцу.** Вайсковая ўлада паведамляе, што ўсе выяжджаючыя за граніцу павінны пісьменна заказным пісьмом паведамляць Р. К. U. ці зьявіцца асабіста.

Рэзэрвісты паведамляючы пісьмом Р. К. U. аб выезьдзе забавязаны паказаць: 1) імя і прозьвішча, 2) год нараджэньня, 3) імя бацькоў, 4) месца пражыцьця і 5) па магчымасьці дакладны заграні́чны адрэс.

Калі рэзэрвіст пры выезьдзе ня можа падаць свой заграні́чны адрэс, дык па прыезьдзе на месца павінен зараз-жа пісьменна паведаміць Р.К.U.

Пасьля павароту, рэзэрвісты павінны ў працягу 3 дзён зьявіцца ў Р.К.U.

= **Спрашчэньне канцэляршчыны.** Камэндант паліцыі м. Вільні выдаў распараджэньне аб выдачы выпісак з дамовых кніг аб мэльдунках на падставе вуснае заявы інтэрэсанта без падачы просьбы.

Гербавая аплата будзе адмячацца на выдаваных выпісках.

= **Барацьба паліцыі з жанчынай.** 7 б. верасьня на Дамініканскай вул. два паліцэйскіх мелі арыштаваць жанчыну, каторая аказала спраціўленьне, і адзначаючыся нязвычайнай фізычнай сілай, раскідала паліцэйскіх. На помач апошнім зьявілася яшчэ трох паліцэйскіх, якія паклаўшы ня малыя высілкі пасадзілі кабету на звошчыка. Перад тым, як паліцэйскім удалося пасадзіць кабету, апошняя некалькі разоў кідала ўсіх паліцэйскіх па чарзе на зямлю. Гэтае нязвычайнае ды дармовае зьявішча сабрала сотні цікавых. Будаўляныя работнікі, робячыя рэмонт на Дамініканскай вул., гучнымі вокляскамі спатыкалі кожны спрытны рух кабеты. На просьбу паліцэйскіх, дапамагчы ім у барацьбе — работнікі адказалі адмоўна.

= **Курсы валютаў.** 13.IX. Польскі Банк у Варшаве плаціў за даляры 6.20, золата 10 руб. 33,70.

## Юрыдычныя парады.

**Грам. С. Сіняку.** *Пытаньне*: Сямья была эвакуавана у 1915 г. У 1920 годзе вярнулася на гаспадарку ўдава старшага сына, забітага ў Расеі камуністамі і з дзяцьмі пачала вясьці гаспадарку. У 1921 г. прыехаў бацька з маткай. Удаву з дзяцьмі сьвёкар выгнаў з хаты і адказаў ад гаспадаркі. Міравы Суд прысудзіў удаве жыць разам са сьвекрам і супольна карыстацца з гаспадаркі. Але сьвекар дае толькі воз сена з 9 дз. Баючыся сьвекра ўдава ня жыве з ім разам, а ў мястэчку ў сваёй хаце. Апошнім часам сьвекар задумаў адказаць усю зямлю ці фіктыўна прадаць сваей дачцы, якая была вышаўшы ў 1912 г. замуж, цяпер аўдавела і хоць мае пасьля мужа гаспадарку — жыве пры бацьку. Што рабіць ўдаве?

*Адказ*: Згодна з рашэньнем Суда трэба каб ўдава з дзяцьмі жыла разам са сьвекрам і працуючы на гаспадарцы яна мела-б права і карыстацца з даходаў. Калі ёсьць нейкія паважныя прычыны (ня нейкая баязьнь, можа і зусім дарэмная), якія робяць немагчымым супольнае жыцьцё — можна прасіць праз Суд ардынарыю. Але трэба даказаць гэтыя прычыны. Ды і то слабыя на гэта права, бо сьвекар можа бараніцца тым, што няма каму працаваць, а ён сам ня можа. Што датычыцца замеру сьвекра адказаць ці прадаць зямлю дачцэ — дык на гэта нічога парадзіць ня можна. Пакуль ён жыве — ён гаспадар зямлі і можа з ёю рабіць, што захоча, а тымбольш перадаць сваю зямлю аднаму з сяброў сваёй сямы. — Радзім удаве неяк паладзіць з сьвекрам. Мо' не захоча пакрыўдзіць унукаў. Трэ ісьці на ўступкі і старацца наладзіць супольнае жыцьцё, стараючыся дагадзіць старым. Гэта самае лепшае, бо Судом толькі ўканец папсуеце адносіны і зазлуеце старога.

**Грам. Азярному.** *Пытаньне*: У 1912 г. была куплена зямля; паперы зроблены на зяця; цесьць даў 600 руб., а рэшту 800 руб. меўся аддаць і тады мелі быць перапісаны на яго дакумэнты. У 1912 і 13 г. г. зяць зямлю аддаваў на запашку. У 1914 г. на зямлю пераехаў цесьць і жыў там да 1924 г. Прапанаваў, згодна з умовай грошы зяцю, той ня ўзяў. У 1924 г. на зямлю пераехаў і зяць. Жылі і карысталіся разам. Цяперака зяць гоніць цесьця. Часьць будоўлі пабудавана цесьцём. Што рабіць? Ці можа цесьць атрымаць што небудзь?

*Адказ:* Калі ад часу як цесьць пачаў фактычна ўладаць зямлёю і да часу, калі пачалося іх супольнае ўладаньне з зяцем прайшло поўных 10 гадоў; калі ўладаньне гэтае мела характар поўнай уласнасьці, г. зн. арэнды не плаціў і распараджаўся як сваім, а зяць зусім ня ўмешываўся у гаспадарку, дык цесьць мае права па даўнасьці. У іншым выпадку — можа толькі шукаць з зяця вартасьці будоўлі. Як відаць справа бяз Суда ня скончыцца, хай цесьць сядзіць, а як зяць падасьць на высяленьне яго у Суд,—трэба не марудзячы, і абавязкова **да першага паседжаньня** зьвярнуцца да адваката і падаць стрэчную позву.

**Грам. С. Мят — цы.** Па справе Камарыхі наводзяцца спраўкі ў Судзе і будзе вам напісана пісьмом, або ў газэце.

**Грам. Янчуковічу Ул.** Бацька памёр у 1919 г. Засталася матка і 3 дзяцей старшай, сястры цяперака 20 гадоў. Есьць два вэксэлі па якіх бацька пазычыў у 1913 годзе Андрэю Жыгалоўскаму і Станіславу Грышану па 50 руб. Жыгалоўскі памёр, засталася жонка і маемасьць. Кажуць што зайшла ўжо даўнасьць. Над дзяцьмі і іх маемасьцяй вызначана апека. Матка галоўная апякунка. Ці можна высудзіць грошы і як?

*Адказ*: Даўнасьці ніякай тутка няма, бо ёсьць непаўналетнія насьледнікі, а даўнасьць у такіх выпадках устрымоўваецца аж да часу паўналецтва. Хай апякуны (адна матка можа, як галоўная апякунка) падаюць да Судзьдзі Пакою позву па абодвух вэксалёх. Па вэксэлю Жыгалоўскага які памёр — трэба падаць позву да насьледнікаў. Прысудзяць поўнасьцяй з працэнтамі.

## ЖАРТЫ.

### Спрытны адказ.

На станцыі ў буфэце каля стала занялі ўсе мейсцы паны. З берагу неяк прымасьціўся адзін селянін і п'е гарбату. У гэты час уваходзіць яшчэ адзін панок. Ен узяў шклянку гарбаты, падыйшоў да стала і чакае пакуль селянін уступіць яму месца. А той ані думае.

Жалаючы дапячы яму за гэта панок зварочваецца да кумпаніі:

„А скажыце, калі ласка, якая розьніца паміж мужыком і сьвіньнёй?"

Селянін, быццам і не па яго адрэсу гаворана:

„Якая розьніца?"

Усе да селяніна „Ну, але! Якая?"

„А тая, мае паночкі, што мужык есьць седзячы, а сьвіньня—стоячы.

*Дуля.*

### Абвестка.

З прычыны дымісіі адказнага рэдактара п. Кевіча, які так спалохаўся арт. 129, што пакінуў свой пост не дачакаўшыся рэалізацыі гэтага артыкула, газэта „Нежыцьцё Беларуса" засталася без адказнага рэдактара.

Вучняў ужо няма, а рызыкаваць сваей асобай ня маю права, бо яна вельмі патрэбна для Бацькаўшчыны.

Дзеля гэтага клічу ўсіх тых, каму абрыдла вольнае паветра буржуазнага гаспадарства і прапаную ім заняць месца адказнага рэдактара газэты.

Варункі — найлепшыя: за шчырую службу—нагрsucceedада: дарэмны асобны пакой на Лукішках з поўным утрыманьнем.

Пасьпешайце, бо пакояў на Лукішках можа не хапіць.

Зьяўляцца: Віленская вул. № 126.

*Фактычны рэдактар.*



Рэдактар-Выдавец Язэп Салавей

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.